## ПЛЯН ДАКЛАДУ

1. 15-ю гадавіну Чырвоная армія сьвяткуе ў абстаноўцы вялізарнейшых дасягненьняў першай пяцігодкі, пераможна скончанай за чатыры гады, пад кіраўніцтвам бальшавіцкай партыі і яе ЦК, на чале з лепшым ленінцам т. Сталіным, у непрымірымай барацьбе за генэральную лінію партыі, у барацьбе з контррэволюцыйным трацкізмам, з опортунізмам усіх колераў і адценьняў і з правым опортунізмам, як галоўнай небясьпекай.

2. Вялізарнейшыя перамогі генэральнай лініі партыі ў галіне індустрыялізацыі і колектывізацыі вывелі нашу краіну ў рады перадавых прамысловых краін, ператварылі ў краіну буйнай колектыўнай соцыялістычнай сельскай гаспадаркі, нязьмерна ўзмацнілі яе міжнародную ролю і абароназдольнасьць. Ушчэнт разьбіты контррэволюцыйныя «тэорыі» трацкізму і правых рэнэгатаў аб немагчымасьці пабудовы соцыялізму ў аднэй краіне. Перамогі першай пяцігодкі ў СССР маюць вялізарнае міжнароднае значэньне ў справе ўмацаваньня барацьбы пролетарыяту з буржуазіяй у капіталістычных краінах.

3. 15-ю гадавіну Чырвоная армія сьвяткуе ў абстаноўцы ўзросшай варожасьці імпэрыялістычных дзяржаў да СССР, у абстаноўцы найвастрэйшых супярэчнасьцяй паміж буйнейшымі імпэрыялістычнымі дзяржавамі (Амэрыка—Японія, Германія—Францыя, Польшча—Германія і т. д.). «Імпэрыялістычны сьвет уступае ў новы тур войн і рэволюцый». Пытаньне аб бесьперапынным узмацненьні і ўмацаваньні Чырвонай арміі і абароназдольнасьці СССР павінна стаяць у цэнтры ўвагі ўсёй нашай работы.

4. Чырвоная армія прайшла слаўны баявы шлях. Злучаныя сілы сусьветнага імпэрыялізму, маючы ў авангардзе рускую памешчыцка-буржуазную контррэволюцыю, у гады грамадзянскай вайны (1917-21 гг.), прабавалі задушыць Савецкую рэспубліку. Калчак, Юдзеніч, Дзянікін, Урангель, панская Польшча, францускія, ангельскія, чэхаславацкія, японскія імпэрыялістычныя окупацыйныя войскі і кітайскія генэралы (1929 г.),—магутным баявым парывам, пад кіраўніцтвам бальшавікоў пры непасрэдным кіраўніцтве Леніна, Сталіна, Варашылава былі выкінуты з нашай краіны. К 15-й гадавіне Чырвоная армія прыходзіць яшчэ больш умацаванай, клясава выхаванай, згуртаванай вакол ленінскай партыі, аснашчонай новай баявой тэхнікай, атрыманай ад нашых заводаў і гатовай да абароны граніц савецкай краіны.

5. Комуністычная партыя—правадыр і організатар Чырвонай арміі, організатар і натхняльнік

яе перамог у грамадзянскую вайну і баявога ўдасканаленьня ў дні перадышкі. 300 тысяч комуністаў змагаліся ў радох арміі на самых адказных і цяжкіх вучастках. 50 тысяч з іх паклалі свае галовы, абараняючы справу соцыялізму. Армейская партарганізацыя—адзін з баявых атрадаў ленінскай партыі—нястомна ўмацоўвае баявую гатоўнасьць Чырвонай арміі.

6. Вернай і непарушнай сьцяной стаіць Чырвоная армія на варце савецкіх рубяжоў. За прайшоўшыя гады будаўніцтва ўзброеных сіл Саюзу, усе элемэнты, якія складаюць бояздольнасьць Чырвонай арміі, як узброенай апоры пролетарскай дзяржавы, бесьперапынна ўмацоўваліся і ўдасканальваліся пад непасрэдным кіраўніцтвам ЦК УсеКП(б) і правадыра партыі т. Сталіна. Рабочая кляса, пад кіраўніцтвам партыі, пераможна скончыўшая пяцігодку за 4 гады, насычае армію новай сучаснай тэхнікай. Армія ўпорна змагаецца за аўладаньне тэхнікай. Канчаткова ўмацаваўшыся на соцыялістычным шляху, краіна дае арміі новыя маладыя кадры байцоў, ударнікаў заводаў і соцыялістычных палёў, якія маюць вопыт барацьбы за новую соцыялістычную дысцыпліну, якія маюць вопыт практычнай работы па соцыялістычным будаўніцтве ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы з кулацтвам у вёсцы, з дэзорганізатарамі соцыялістычнай вытворчасьці (рвачамі, лятунамі, лодырамі) на заводах.

7. Сьвяткаваньне 15-й гадавіны Чырвонай арміі будзе праходзіць пад лёзунгам умацаваньня су-

вязі і сыстэматычнага ўплыву пролетарыяту на Чырвоную армію. Грамадзкія абарончыя організацыі (Асоавіяхім, Аўтадор, Чырвоны крыж, фізкультура) павінны прыйсьці да гадавіны з конкрэтнымі дасягненьнямі сваёй баявой падрыхтоўкі і рэалізацыяй варашылаўскай эстафэты.

8. Сьвяткаваньне павінна прайсьці пад лёзунгам баявога правядзеньня ў жыцьцё пастаноў гістарычнага студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) за поўнае выкананьне плянаў 1933 г., асваеньне новай тэхнікі, бальшавіцкае правядзеньне веснавой пасяўной кампаніі.

---

Чырвоная армія сваю 15-ю гадавіну сьвяткуе ў гістарычнай абстаноўцы. Рашэньнямі студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б) падагулены вынікі вялізарнейшых перамог на ўсіх вучастках социялістычнага будаўніцтва. У сваім гістарычным дакладзе на пленуме т. Сталін паказаў яркі малюнак вялічэзных дасягненьняў першай пяцігодкі. Програмная прамова т. Сталіна аб рабоце ў вёсцы дала ясную і найшырэйшую пэрспэктыву далейшай барацьбы за социялістычнае земляробства, за ўраджайнасьць, за організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і социялістычнае перавыхаваньне колгасьнікаў. Першая пяцігодка, наперакор усякім прадраканьням клясавых ворагаў, іх заклінаньням аб правале пяцігодкі, і ў барацьбе з іх шалёным супраціўленьнем, пераможна скончана за чатыры гады. Наша партыя, пад кіраўніцтвам ЦК, маючы на чале т. Сталіна, разграміўшы контррэволюцыйны троцкізм і яго

саюзьнікаў — правых рэнэгатаў, — пасьлядоўным правядзеньнем генэральнай лініі партыі забясьпечыла гіганцкія посьпехі першай пяцігодкі. Перамогамі пяцігодкі, якія маюць сусьветна-гістарычнае значэньне, дашчэнту разьбіта сьцьвярджэньне, што капіталістычная гаспадарка зьяўляецца найлепшай сыстэмай гаспадаркі, што ўсякая другая сыстэма асуджана на гібель. Пераможнае сканчэньне першай пяцігодкі мае вялізарнае значэньне для лёсу міжнароднай пролетарскай рэволюцыі. «Цяпер галоўнае сваё ўзьдзеяньне на міжнародную рэволюцыю мы аказваем сваёй гаспадарчай палітыкай»—пісаў т. Ленін. Пяцігодка бліскуча пацьвердзіла правільнасьць гэтых слоў. «Посьпехі пяцігодкі мобілізуюць рэволюцыйныя сілы рабочай клясы ўсіх краін супроць капіталізму— гэта бясспрэчны факт» (Сталін).

Рабочая кляса, колгаснае сялянства і ўсе працоўныя нашай краіны, пад кіраўніцтвам партыі Леніна, пасьпяхова выканалі задачы першай пяцігодкі. Гэтыя задачы заключаліся:

«Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб перавесьці нашу краіну з яе адсталай, часам сярэднявяковай тэхнікай, на рэльсы новай, сучаснай тэхнікі.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб ператварыць СССР з краіны аграрнай і немачнай, якая залежыць ад капрызаў капіталістычных краін,—у краіну індустрыяльную і магутную, зусім самастойную і незалежную ад капрызаў сусьветнага капіталізму.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб, ператвараючы СССР у краіну індустрыяльную, выцесьніць да канца капіталістычныя элемэнты, расшырыць фронт соцыялістычных форм гаспадаркі і стварыць экономічную базу для зьнішчэньня кляс у СССР, для пабудовы соцыялістычнага грамадзтва.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб стварыць у нашай краіне такую індустрыю, якая была-б здольна пераўзброіць і рэорганізаваць ня толькі прамысловасьць, у цэлым, але і транспорт, але і сельскую гаспадарку на базе соцыялізму.

Асноўная задача пяцігодкі заключалася ў тым, каб перавесьці дробную і раздробненую сельскую гаспадарку на рэльсы буйнай колектыўнай гаспадаркі, забясьпечыць тым самым экономічную базу соцыялізму ў вёсцы і ліквідаваць, такім чынам, магчымасьць аднаўленьня капіталізму ў СССР.

Нарэшце, задача пяцігадовага пляну заключалася ў тым, каб стварыць у краіне ўсе неабходныя тэхнічныя і экономічныя прадпасылкі для максымальнага ўзьняцьця абароназдольнасьці краіны, якая дае магчымасьць організаваць рашучы адпор усім і ўсялякім спробам ваеннай інтэрвэнцыі звонку, усім і ўсялякім спробам ваеннага нападу звонку» (Сталін).

Студзеньскі пленум з вычарпальнай яснасьцю сформуляваў выкананьне гэтых задач. СССР з

краіны ў мінулым аграрнай ператвараўся ў краіну індустрыяльную. Тав. Ленін з асаблівай сілай падкрэсьліваў, што «адзінай матэрыяльнай асновай соцыялізму можа быць буйная прамысловасьць, здольная рэорганізаваць і земляробства». Гэты асноўны завет Леніна, пад выпрабаваным кіраўніцтвам т. Сталіна, мы выканалі, стварыўшы моцную базу буйнай машыннай індустрыі. Справа соцыялізму ў нашай краіне моцна і канчаткова перамагла. На аснове індустрыялізацыі мы вырашылі самую цяжкую задачу пролетарскай рэволюцыі—умацаваньне новага колгаснага ладу ў вёсцы, які, ня гледзячы на кароткі пэрыод свайго існаваньня, ужо на справе даказаў усю сваю перавагу перад індывідуальнай гаспадаркай. Усё гэта рашуча зьмяніла суадносіны клясавых сіл у краіне на карысьць соцыялізму. Пролетарыят колькасна вырас і палітычна ўзмацніўся. Кулацтва разгромлена, хоць яшчэ і недабіта. Колгаснае сялянства, перамагаючы дробнабуржуазныя хістаньні, змагаючыся пад кіраўніцтвам партыі з кулацкімі элемэнтамі, з кулацкімі агентамі, шкоднікамі і саботажнікамі ў сельскай гаспадарцы, стала рашаючай сілай у вёсцы. Соцыялізм перамог і ў сельскай гаспадарцы. На гэтай базе палепшылася матэрыяльнае і культурнае становішча рабочай клясы і ўсіх працоўных. Перамогі першай пяцігодкі забясьпечылі магутны экономічны і культурны росквіт нацыянальных рэспублік і абласьцей Савецкага саюзу.

У выніку першай пяцігодкі, калі ўвесь капіталістычны сьвет руйнуецца экономічным крызісам, СССР заняў:

| | |
|---|---|
| па вырабу трактараў . . . | 1-е месца ў сьвеце |
| па сельгасмашынабудаўніцтве . | " " " |
| па вырабу комбайнаў . . | " " " |
| па агульным машынабудаўніцтве . | 1-е месца ў Эўропе і 2-е месца ў сьвеце |
| па чыгуну . . . . . | 1-е месца ў Эўропе і 2-е месца ў сьвеце |
| па электраэнэргіі . . . . | 3-е " " |
| па нафце . . . . . | 1-е месца ў Эўропе і 2-е месца ў сьвеце |
| па торфу . . . . . | 1-е " " |
| па вугалю . . . . . | 4-е " " |
| па хіміі . . . . . | 4-е " " |

Падагульваючы вынікі, рэзолюцыя студзенскага пленуму адзначае:

«Такім чынам, СССР з краіны аграрнай ператварыўся ў краіну індустрыяльную, што ўзмацніла экономічную незалежнасьць краіны, бо СССР атрымаў магчымасьць рашаючую частку неабходнага абсталяваньня вырабляць на сваіх уласных прадпрыемствах».

Гэтых посьпехаў партыя дабілася няўхільным правядзеньнем лініі партыі на індустрыялізацыю краіны, у непрымірымай барацьбе з опортуністамі—агентамі клясавага ворага і ў першую чаргу з правым ухілам, як галоўнай небясьпекай на даным этапе. Калі-б партыя адмовілася ад палітыкі індустрыялізацыі, ад палітыкі расшырэньня вырабу сродкаў вытворчасьці, як гэтага патрабавалі

правыя опортуністы, мы зараз ня мелі-б ні чорнай мэталюргіі, ні трактарнай, ні аўтомобільнай прамысловасьці, у нас ня было-б мэталю для вырабу машын, мы былі-б абяззброены перад тварам узброенага новай тэхнікай капіталістычнага акружэньня. У непрымірымай клясавай барацьбе, ажыцьцяўляючы політыку найбольш паскораных тэмпаў—«падхлістваючы краіну» (Сталін), мы стварылі ўласную перадавую тэхнічную базу для соцыялістычнай рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі.

Мы ўступілі ў другую пяцігодку. 1933 год—першы год гэтай пяцігодкі. Асноўныя політычныя і гаспадарчыя задачы другой пяцігодкі акрэсьлены ў рашэньнях XVII Усесаюзнай партыйнай конфэрэнцыі. Другая пяцігодка будзе пяцігодкай канчатковай ліквідацыі ў СССР капіталістычных элемэнтаў і кляс наогул і ператварэньня ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага грамадзтва. Другая пяцігодка завершыць рэконструкцыю ўсёй народнай гаспадаркі і перабудову ўсіх яе галін на аснове навейшай тэхнічнай базы. У другой пяцігодцы будуць створаны ўмовы для поўнага зьніштажэньня процілегласьці паміж горадам і вёскай. СССР стане на першае месца ў Эўропе ў тэхнічных адносінах. Тав. Сталін выразна формуляваў, што ў другой пяцігодцы няма неабходнасьці праводзіць політыку найбольш паскораных тэмпаў. Мы ўжо выканалі ў асноўным галоўную задачу—падвялі базу новай сучаснай тэх-

нікі пад прамысловасьць, транспорт, сельскую гаспадарку. Нам ужо ўдалося ўзьняць абароназдольнасьць краіны на патрэбную вышыню. Мы пабудавалі сотні новых вялікіх прадпрыемстваў з новай складанай тэхнікай. У аб'ёме прамысловай продукцыі ў другой пяцігодцы асноўную ролю будуць адыгрываць новыя заводы, тэхніка якіх яшчэ не асвоена, і якую трэба асвоіць. Першая пяцігодка была пяцігодкай патосу новага будаўніцтва. Другая пяцігодка, пры далейшым няўхільным разьвіцьці новага будаўніцтва, будзе ў тойжа час пяцігодкай асваеньня новых прамысловых прадпрыемстваў з упорам на якасьць продукцыі, на павышэньне продукцыйнасьці працы і зьніжэньне сабекошту; пяцігодкай умацаваньня новых прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы. Ці азначае гэта, што мы будзем працаваць з халадком? Не. Наадварот, каб асвоіць новыя прадпрыемствы, палепшыць якасьць, зьнізіць сабекошт, узьняць ураджайнасьць, патрабуецца вялікая напружанасьць, а галоўнае—арганізаванасьць і культура ў рабоце. Вось якой зьяўляецца абстаноўка ўнутры нашай краіны да 15-й гадавіны РСЧА.

Вялізарныя посьпехі савецкай пяцігодкі дасягнуты пры наяўнасьці нябывалага па глыбіні і вострасьці крызісу ў капіталістычных краінах. Капіталістычная вытворчасьць адкінута на 3—4 дзесяцігодзьдзі назад. У Германіі амярцьвела да 65 проц. апарату цяжкай індустрыі, у ПАЗШ—85 проц. З усіх відаў прамысловасьці капіталі-

стычных краін ня ведае крызісу толькі ваенная прамысловасьць. Капіталістычны сьвет нястрымна коціцца да новай вайны і інтэрвэнцыі, як да адзінага выхаду з крызісу. Японскі імпэрыялізм ужо ўступіў на шлях вайны. Амэрыканскі імпэрыялізм бразгае зброяй. Германія настойліва імкнецца да роўнапраўя ва ўзбраеньнях. Імпэрыялістычная Францыя і польскі фашызм з трывогай глядзяць на ваенную падрыхтоўку Германіі.

Тав. Молатаў на III сэсіі ЦВК Саюзу гаварыў:

«Міжнародная абстаноўка зноў нам напамінае аб неабходнасьці ўзмоцненай пільнасьці, і ў прыватнасьці асаблівай увагі да становішча на Далёкім Усходзе. Гэта павінна знайсьці свой адбітак ва ўсёй нашай рабоце і ва ўсім нашым будаўніцтве, якое зьяўляецца асновай росту нашай эканамічнай і палітычнай магутнасьці».

Мы дабіліся вялікіх посьпехаў у справе захаваньня міру. Аднак, гэта не зьмяншае небясьпекі новай інтэрвэнцыі. XII пленум ВККІ, констатаваўшы канец частковай капіталістычнай стабілізацыі, папярэдзіў працоўных усяго сьвету, што капіталізм уступае ў новы тур войн і рэволюцый. Наша краіна пераможна завяршыла сваю вялікую пяцігодку. Яе ўзброеная апора—магутная Чырвоная армія, у рэзультаце перамогі пяцігодкі аснашчоная новай сучаснай тэхнікай—у поўнай баявой гатоўнасьці стаіць на варце першай у сьвеце пролетарскай дзяржавы.

## ВЫНІКІ ПЯЦІГОДКІ І АБАРОНА КРАІНЫ САВЕТАЎ

Выключныя па сваім значэньні перамогі першай пяцігодкі нязьмерна ўмацавалі абароназдольнасьць Краіны саветаў і баявую гатоўнасьць і магутнасьць нашай Чырвонай арміі. РСЧА разьвівалася і мацнела разам з ростам нашай краіны. СССР акружан кальцом варожых нам імпэрыялістычных дзяржаў. Чырвоная армія—узброеная апора нашай пролетарскай дзяржавы. Партыя, ЦК і асабіста т. Сталін аддавалі і аддаюць вялізарную ўвагу росту баявой магутнасьці Чырвонай арміі. Тав. Варашылаў на актыве маскоўскага гарнізону гаварыў:

«Наша Чырвоная армія, клясавая армія рабочых і сялян, заўсёды была моцнай сваім выключным політыка-моральным станам, сваім духам, сваёй высокай рэволюцыйнай сьвядомасьцю. Але ўсе мы адчувалі, і асабліва тыя з нас, хто сядзеў наверсе, у кіраўніцтве, што за гэтым духам была вельмі слабая, выражаючыся фігуральна, матэрыя. Старая армія, ад якой атрымала ў спадчыну сваю ўзброенасьць Чырвоная армія, была самай адсталай арміяй у Эўропе».

Грамадзянская вайна і аднаўленчы пэрыод ня ўнесьлі амаль ніякай зьмены ва ўзбраеньне Чырвонай арміі. Таму,—гаворыць далей т. Варашылаў,—асноўнай «задачай пяцігодкі ў галіне абароны было тэхнічнае пераўзбраеньне Чырвонай арміі на базе пасьпяховага росту нашай індустрыі. Таму галоўнейшым зьместам нашай работы была

тэхнічная рэконструкцыя Чырвонай арміі на базе новага ўзбраеньня, якое паступае з нашых заводаў».

Таму недавыкананьне агульнай програмы прамысловай продукцыі,—гаварыў на пленуме т. Сталін,—тлумачыцца тым, што «з прычыны адмаўленьня суседніх краін падпісаць з намі пакты аб ненападзе і ўскладненьняў на Далёкім Усходзе, нам прышлося насьпех пераключыць рад заводаў у мэтах узмацненьня абароны на выраб сучасных прылад абароны. Ну, а пераключэньне гэта, з прычыны неабходнасьці прайсьці нейкі падрыхтоўчы пэрыод, прывяло да таго, што гэтыя заводы спынілі выраб продукцыі на працягу 4-х месяцаў, што не магло не адбіцца на выкананьні агульнай програмы вытворчасьці на пяцігадовым пляне на працягу 1932 г. Опэрацыя гэта прывяла да таго, што мы запоўнілі цалкам і поўнасьцю прабелы ў справе абараназдольнасьці краіны. Але яна не магла не адбіцца адмоўна на выкананьні програмы вытворчасьці па пяцігадовым пляне. Ня можа быць ніякага сумненьня, што бяз гэтай прыўваходзячай акалічнасьці мы ня толькі выканалі-б, але напэўна перавыканалі-б лічбовую частку пяцігадовага пляну».

Наша краіна не магла і ня можа ведаць, калі на нас нападуць імпэрыялісты. Мы не маглі чакаць. Трэба было поўнасьцю выкарыстаць перадышку для ўмацаваньня магутнасьці Краіны саветаў.

«Партыя павінна была пакончыць у магчыма кароткі тэрмін са слабасьцю краіны ў галіне аба-

роны. Умовы моманту, рост узбраеньня ў капіталістычных краінах, правал ідэі раззбраеньня, нянавісьць міжнароднай буржуазіі да СССР,—усё гэта штурхала партыю на тое, каб форсаваць справу ўзмацненьня абараназдольнасьці краіны, асновы яе незалежнасьці» (Сталін).

У вырашэньні гэтай задачы наша краіна, пад кіраўніцтвам партыі і яе правадыра т. Сталіна, дасягнула рашаючых посьпехаў. З кожным днём расьце ў СССР несакрушальная база абароны краіны, у якой будуецца соцыялізм:

«З краіны слабай і непадрыхтаванай да абароны Савецкі саюз ператварыўся ў краіну магутную ў сэнсе абараназдольнасьці, у краіну, гатовую да ўсякіх выпадковасьцяй, у краіну, здольную вырабляць у масавым маштабе ўсе сучасныя прылады абароны і забясьпечыць імі сваю армію ў выпадку нападу звонку» (Сталін).

Рэзультатам вялізарных посьпехаў у галіне індустрыялізацыі зьявілася тое, што:

«Чырвоная армія канца пяцігодкі зусім не падобна на Чырвоную армію 1927-28 гг., а таксама, як наша краіна з яе новай эканомічнай геаграфіяй, новымі індустрыяльнымі цэнтрамі, новымі прамысловымі гігантамі, саўгасамі і колгасамі зусім не падобна на СССР канца 1927 і пачатку 1928 гг.». (Варашылаў).

Вялізарныя зрухі адбыліся за пэрыод першай пяцігодкі ў галіне тэхнічнага аснашчэньня арміі. Калі раней армія вельмі значна адставала ў галіне кулямётнага, артылерыйскага і танкавага ўзбра-

еньня, дык цяпер Чырвоная армія на базе індустрыялізацыі аснасьцілася і мае сваю тэхніку.

У рэзультаце пяцігодкі мы маем свой, неадстаючы ад сучасных заграпічных узораў, ручны кулямёт, танкавы кулямёт, авіяцыйны кулямёт і свае кулямётныя зэнітныя ўстаноўкі. Мы маем самазарадную вінтоўку, некалькі ўзораў аўтаматычнай вінтоўкі, кулямёту-пісталета, аўтаматычнага пісталета, а галоўнае—**мы маем добрыя кадры, якія працуюць у гэтай справе, і сур'ёзную, моцную збройную базу.**

У галіне артылерыйскай справы за гэты час мы «мадэрнізавалі нашу старую артылерыю, дабіўшыся ад яе такой магутнасьці (па дальнасьці і ўбойнасьці), што яна зараз не адстае ад эўрапейскіх узораў. Мы стварылі (г. зн. сконструявалі і паставілі на вытворчасьць) свае новыя сыстэмы цяжкай артылерыі, мы паставілі на вытворчасьць новую сыстэму зэнітнай артылерыі. Мы стварылі (г. зн. сконструявалі і паставілі на вытворчасьць) дробнакалібэрную артылерыю. Мы зараз маем у вайсковых падразьдзяленьнях процітанкавыя гарматы, маем асобыя сыстэмы гармат для суправаджэньня дробных падразьдзяленьняў пяхоты і для барацьбы з кулямётнымі гнёздамі праціўніка на кароткіх дыстанцыях» (В а р а ш ы л а ў).

**Чырвоная армія** зусім ня мела танкавага ўзбраеньня.

«У рэзультаце вялізарнай напружанасьці сваіх сіл мы паставілі ў нашай краіне выраб сучасных танкаў. І ня толькі паставілі выраб, ня толькі сіва-

рылі танкавыя вытворчыя базы, але ўжо выхавалі на гэтай рабоце кадры кваліфікаваных канструктараў—тт. Барыкаў, Лебедзеў, Тоскін, і інш.—і кваліфікаваных рабочых, а яны,—як і трэба было чакаць,—ужо далі нам некалькі сваіх арыгінальных канструкцый, няўступаючых вядомым загранічным узорам. Мы цяпер ужо можам без перабольшання сказаць, што за гэтыя чатыры гады мы поўнасьцю асвоілі і на вытворчасьці і ў арміі сучасную танкавую зброю» (Варашылаў).

**У галіне авіяцыі** мы таксама маем **вялікія дасягненьні:**

«Наша авіяцыя ўжо ў 1928 г. ня была слабай. У гэтай галіне мы вельмі шмат працавалі і раней, і да пачатку першай пяцігодкі дасягнулі значных посьпехаў. Але якасьць нашых самалётаў і матораў у адносінах да іх вышыннасьці, грузапад'ёмнасьці і радыюсу дзеяньня ўсё яшчэ адставала ад сусьветнай авіяцыйнай тэхнікі. За гэтыя чатыры гады ў галіне самалётабудаўніцтва мы зрабілі вялікі крок уперад. Мы стварылі авіяцыйную прамысловасьць. Аднак, па якасьці авіяцыйнай прадукцыі мы яшчэ не дагналі сучасную сусьветную тэхніку. Як і раней, мы ўсё яшчэ адстаем у маторабудаўніцтве. Аднак, у гэтым адставаньні цяпер няма ўжо нічога падобнага на тое, што было ў 1928 г. Да гэтага часу мы маем некалькі сваіх сучасных узораў авіяцыйных матораў, з якіх некаторыя ўжо ставяцца на масавы выраб. Мы маем значна ўзмацнеўшы і вырасшы кадр авіяцыйных канструктараў. У нас ёсьць поўная ўпэўненасьць,

што ў бліжэйшае пяцігодзьдзе мы выйдзем на ўзровень сусьветнай авіяцыйнай тэхнікі і створым усе ўмовы для таго, каб у гэтай галіне быць наперадзе другіх» (В а р а ш ы л а ў).

**Наш морскі флёт** прадстаўляе грозную для клясавых ворагаў сілу:

«Зразумела, пяцігодка не прайшла міма нашых морскіх сіл. За гэтыя чатыры гады мы ~адрамантавалі ўвесь суднавы склад, зрабілі некаторую модэрнізацыю нашых лінейных караблёў, узмацнілі некалькі падводны флёт і ўмацавалі нашу берагавую абарону. Асабісты склад флёту значна вырас, кваліфікаваўся, узмацнеў ва ўладаньні складанай морскай тэхнікай. За першую пяцігоду значна разгорнулася наша суднабудаўнічая база» (В а р а ш ы л а ў).

Цяпер наша Чырвоная армія ператварылася ў такую армію, якая,—гаворыць т. Варашылаў,—зьяўляецца моцнай ня толькі бальшавіцкім духам, арганізаванасьцю і дысцыплінай, але і сваёй савецкай ваеннай тэхнікай, у тым ліку та:ой складанай, як авіяцыя і танкі.

Посьпехі ў галіне індустрыялізацыі і колектывізацыі насычаюць армію паўнацэннымі людзкімі кадрамі. У армію ідзе рабочы-ўдарнік, які мае вопыт барацьбы за новую соцыялістычную дысцыпліну, выхаваны ў рашучай барацьбе з рвачамі, лятунамі, лодырамі і іншымі дэзорганізатарамі соцыялістычнай вытворчасьці. У армію ідзе ўдарнік колгасаў і саўгасаў, які мае вопыт непрымірымай барацьбы за організацыйна-гаспадар-

чае ўмацаваньне колгасаў, за ўраджайнасьць. Гэта нязьмерна ўмацоўвае Чырвоную армію. За пяцігодку яшчэ больш палепшыўся соцыяльны склад камандных кадраў.

«Лік рабочых з 28 проц. у 1928 г. вырас да 40 проц. Палепшылася партыйная праслойка, якая вырасла з 55 проц. у 1928 г. да 61 проц. у 1932 г. Асабліва вялікі рост дае партыйная праслойка ў вышэйшых і старшых асноўных пасадах. Напрыклад, у артылерыі ў старшым камандным складзе партыйная праслойка з 15 проц. вырасла да 81 проц., у пяхоце з 54 проц.—да 88 проц., у броне-танкавых войсках яна становіць 100 проц.

У вялізарнай ступені вырасла партыйна-комсамольская організацыя РСЧА. Колькасьць членаў партыі і комсамольцаў у 1928 г. складала 31,6 проц., у сучасны момант члены партыі і комсамольцы складаюць 59,4 проц. усяго асабістага складу арміі. Узрасла агульная культурнасьць чырвонаармейцаў, камандзіраў і політработнікаў. Выпрацавалася сыстэма баявой падрыхтоўкі камандзіра і політработніка ў войсках. Пастаўлена марксыцка-ленінская вучоба начскладу на патрэбную вышыню.

Створаны ўсе ўмовы для таго, каб кадры Чырвонай арміі былі варты тэй тэхнікі, якую далі сваёй арміі наша партыя і наша рабочая кляса пры пераможным завяршэньні першай пяцігодкі соцыялістычнага будаўніцтва». (В а р а ш ы л а ў).

Чырвоная армія, моцна згуртаваная вакол ленінскай партыі, аснашчоная новай магутнай тэх-

нікай, з бальшавіцкім упорствам змагаецца за аўладаньне тэхнікай, за жалезную ваенную дысцыпліну, за далейшае павышэньне баявой і палітычнай падрыхтоўкі на ўсіх вучастках умацаваньня абароназдольнасьці краіны і Чырвонай арміі.

## ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ І СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЕ БУДАЎНІЦТВА

Пад кіраўніцтвам комуністычнай партыі Чырвоная армія разграміла клясавых ворагаў у грамадзянскай вайне, забясьпечыла пераход Савецкай рэспублікі да мірнага соцыялістычнага будаўніцтва. Вялізарныя перамогі першай пяцігодкі ўмацоўваюцца наяўнасьцю ў нашай краіне магутнай узброенай сілы рабоча-сялянскай Чырвонай арміі. Наша партыя дала ўзор організацыі такой арміі, якая на сваіх штандарах нясе сапраўдны мір усім прыгнечаным. Упяршыню ў гісторыі чалавецтва ў нашай краіне створана армія, якая зьяўляецца зброяй міру і вызваленьня, а не вайны і прыгнечаньня. Наяўнасьць такой арміі забясьпечвае недатыкальнасьць нашых граніц.

Асноўныя задачы Чырвонай арміі—баявая вучоба, але Чырвоная армія зьяўляецца ў той жа час першакляснай палітычнай школай. Чырвоная армія не стаіць у баку ад вялікай соцыялістычнай будоўлі. Чырвоная армія і працоўныя маюць адны і тыя-ж інтарэсы. Тав. Сталін гаварыў: «Чырвоная армія мае тую асаблівасьць, што яна зьяўляецца зброяй умацаваньня ўлады рабочых і ся-

ляи, зброяй умацаваньня дыктатуры пролетарыяту, зброяй вызваленьня рабочых і сялян ад прыгнечаньня памешчыкаў і капіталістаў. Наша армія ёсьць армія вызваленьня працоўных...»

**Першы пункт палявога статуту РСЧА адзначае:**

«Чырвоная армія зьяўляецца зброяй пролетарскай дзяржавы першай і адзінай у сьвеце бацькаўшчыны працоўных. Яна заклікана забясьпечыць і адстаяць ад усіх замахаў ворагаў соцыялізму і пролетарскай рэволюцыі незалежнасьць СССР і абараніць соцыялістычнае будаўніцтва, мірную працу і свабоду рабочых і сялян.

Абараняючы СССР, яна самім фактам свайго існаваньня садзейнічае барацьбе прыгнечаных працоўных мас усяго сьвету за іх вызваленьне. Чырвоная армія моцна сваёй клясавай сьвядомасьцю, беззаветнай адданасьцю справе комунізму, сувязьзю і падтрымкай шырокіх рабоча-сялянскіх мас, пастаяннай баявой гатоўнасьцю скарыстаць сваю зброю для сакрушальнага разгрому ўзброеных сіл ворагаў Савецкага саюзу».

Чырвоная армія зварочвае штогодна ў самыя глухія, далёкія вёскі, на фабрыкі, саўгасы, колгасы сотні тысяч граматных барацьбітоў на фронце соцыялістычнага будаўніцтва, адданых нашай партыі і савецкай уладзе. Чырвонаармейцы-адпускнікі адыгрываюць на заводзе і асабліва ў вёсцы вялікую ролю. Яны зьяўляюцца лепшымі агітатарамі і праваднікамі політыкі партыі і савец-

кай улады. Яны ўзмацняюць давер'е працоўных мас вёскі да кіраўніцтва рабочай клясы і комуністычнай партыі. Яны садзейнічаюць пашырэньню вайсковых ведаў сярод насельніцтва, яны вядуць актыўную барацьбу з кулацкімі элемэнтамі, якія прабуюць сарваць социялістычнае будаўніцтва ў вёсцы. Асабліва вялікай зьяўляецца іх роля ў справе пераробкі сельскай гаспадаркі, ў організацыі і ўмацаваньні колгасаў. З чырвонаармейцаў-адпускнікоў організаваны па ўсёй нашай краіне сотні лепшых колгасаў і комун. Сотні тысяч пісьмаў з Чырвонай казармы штодзенна пропагандуюць політыку нашай партыі, актыўна памагаюць у выкананьні гаспадарча-політычных мерапрыемстваў, якія праводзяцца партыяй і савецкай уладай.

Рашэньні студзеньскага пленуму яшчэ больш узмацняюць социялістычны ўплыў Чырвонай арміі на вёсцы, бо Чырвоная армія рыхтуе з сваіх байцоў жалезны касьцяк колгаснага актыву, моцныя колгасныя кадры, якія так патрэбны вёсцы. Тэрыторыяльныя часьці Чырвонай арміі актыўна ўдзельнічаюць у социялістычным будаўніцтве і адыгрываюць вялізарную ролю ў социялістычным перавыхаваньні колгасьнікаў.

Пролетарыят капіталістычных краін, разумеючы ролю Чырвонай арміі ў социялістычным будаўніцтве, любіць Чырвоную армію, ацэньвае яе як барацьбіта за яго клясавыя інтарэсы, як барацьбіта за сусьветную пролетарскую рэволюцыю.

Вось як ацэньвае нямецкі пролетарыят Чырвоную армію:

«Абараняючы мірнае існаваньне Савецкага саюзу і яго соцыялістычнае будаўніцтва, Чырвоная армія разам з тым зьяўляецца абаронай рабочых Германіі, Францыі, Англіі, Японіі, Амэрыкі і ўсяго сьвету. Шчырая солідарнасьць зьвязвае нас з Чырвонай арміяй, якая абараняе ачаг міру і соцыялізму».

У непарыўнай сувязі з працоўнымі масамі, актыўна ўдзельнічаючы ў соцыялістычным будаўніцтве, мацнее наша армія, армія сусьветнай пролетарскай рэволюцыі.

## ПАРТЫЯ—ПРАВАДЫР ЧЫРВОНАЙ АРМІІ І ОРГАНІЗАТАР ЯЕ ПЕРАМОГ

Народжаная Кастрычнікам, цэмантаваная партыяй Леніна, Чырвоная армія прайшла слаўны баявы шлях. Злучаныя сілы сусьветнага імпэрыялізму, апіраючыся на расійскую буржуазна-памешчыцкую контррэволюцыю, ставілі сваёй задачай—скінуць бальшавікоў, зьніштожыць савецкую ўладу і ўстанавіць дыктатуру буржуазіі. З Поўначы і Поўдню, з Усходу і Захаду ішлі арміі інтэрвэнтаў, агнём фронтаў і ўнутраных кулацкіх паўстаньняў сьціскаючы ў жалезнае кальцо Краіну саветаў. Усё было пастаўлена на службу задушэньня рэволюцыі. Окупацыйныя арміі 14 імпэрыялістычных дзяржаў, адмірал Калчак, барон

Урангель, генэралы Юдзеніч, Дзянікін Мілер, панская Польшча, банды Махно, Пятлюры, Булак-Балаховіча, Цюцюнікаў, Антонава, Белакітайская авантура 1929 г. і т. д. разьбіты і ліквідаваны магутнай Чырвонай арміяй. У жорсткай клясавай вайне, пад неаслабным кіраўніцтвам партыі, Чырвоная армія вайну 1917-21 гг. скончыла поўным разгромам усіх клясавых ворагаў. У гэтым вялізарная гістарычная заслуга бальшавіцкай партыі.

Комуністычная партыя—перадавы атрад рабочай клясы. Пад кіраўніцтвам партыі, на чале з т. Леніным змагалася і перамагла рабочая кляса ў Кастрычніцкай рэволюцыі, пад кіраўніцтвам партыі была створана Чырвоная армія. Партыя арганізавала перамогу ў часе грамадзянскай вайны, забясьпечыла пераход да практычнай пабудовы новага социялістычнага грамадзтва. У наступныя гады партыя здолела пабудаваць магутную, узброеную, паводле апошняга слова тэхнікі, клясава-згуртаваную Чырвоную армію. Бальшавізм,—асновай якога зьяўляецца вучэньне аб пролетарскай рэволюцыі, аб пролетарскай дыктатуры, якая заваёўваецца шляхам узброенага паўстаньня,—яшчэ да Кастрычніка вывучыў вайсковую справу, майстэрства ўзброенага паўстаньня, майстэрства раскладаньня арміі ворага і стварэньня новай рэволюцыйнай арміі рабочай клясы.

Тав. Ленін вучыў: «Прыгнечаная кляса, якая ня імкнецца да таго, каб навучыцца ўладаць зброяй, заслугоўвае толькі таго, каб да яе адносіліся, як

да рабоў». Ленін неаднакроць падкрэсьліваў, што «ў эпоху грамадзянскай вайны ідэалам партыі пролетарыяту зьяўляецца ваюючая партыя». Бязумоўна, што асноўнай прычынай нашых перамог у грамадзянскай вайне была правільная політыка нашай партыі. Партыя забясьпечыла перамогу, узяўшы правільны шлях у організацыі ўзброеных сіл (стварэньне інстытуту комісараў, барацьба з партызаншчынай, скарыстаньне старых офіцэраў, стварэньне новых кадраў каманднага складу і т. д.). ЦК нашай партыі вызначаў галоўнейшыя напрамкі стратэгічных удараў на франтох грамадзянскай вайны і тым самым організоўваў перамогу. Тып бальшавіка-комісара, які па-бальшавіцку натхняў байцоў, ужо ўвайшоў у гісторыю клясавай барацьбы за соцыялізм. «Бяз партыі, жалезнай і загартаванай у барацьбе, бяз партыі, якая карыстаецца давер'ем усяго сумленнага ў данай клясе, бяз партыі, якая ўмее сачыць за настроем мас і рабіць уплыў на яго,—весьці пасьпяхова такую барацьбу немагчыма» (Ленін). Партыя, выхаваная Леніным, забясьпечыла перамогу соцыялізму.

У найбольш абвостраны пэрыод грамадзянскай вайны 60 проц. усёй партыі, г. зн. каля 300 тысяч комуністаў біліся ў радох Чырвонай арміі. На самыя адказныя вучасткі, у самыя небясьпечныя месцы, туды, дзе патрэбна было ўмацоўваць і цэмантаваць фронт, дзе патрэбна была самаадданасьць, вытрымка,—туды кідаліся комуністы. Сваёй самаадданай барацьбой, асабістым прыкла-

дам і геройствам яны заражалі армію і вучылі яе перамагаць.

Комуністы стварылі новую рэволюцыйную дысцыпліну, згуртоўвалі байцоў вакол лёзунгу нашай партыі, вучылі бачыць і распазнаваць клясавага ворага. 50 тысяч комуністаў загінула на франтох грамадзянскай вайны, абараняючы справу пролетарскай рэволюцыі.

Да армейскага бальшавіка партыя прад'явіла асабліва высокія патрабаваньні. «Пашана да комуністычных ячэек будзе тым вышэй, чым яскравей кожны салдат на вопыце ўпэўніцца, што прыналежнасьць да комуністычнай ячэйкі не дае салдату ніякіх асаблівых праў, а толькі накладае на яго абавязак быць найбольш самаадданым і адважным байцом».

Тысячы комуністаў у надзвычай цяжкіх умовах белагвардзейскага тэрору вялі работу ў тылу белых, у белай арміі, організоўваючы паўстаньні, пераходы салдат белых армій на бок саветаў, вядучы бальшавіцкую пропаганду ў імпэрыялістычных окупанцкіх войсках. «Кожны раз,—гаварыў Ленін,—калі надыходзіў цяжкі момант у вайне, партыя мобілізоўвала комуністаў і ў першую чаргу яны гінулі ў першых радох, тысячамі яны гінулі на фронце Юдзеніча і Калчака. Гінулі лепшыя людзі рабочай клясы, якія афяроўвалі сябе, разумеючы, што яны гінуць, але выратоўваюць пакаленьні, выратоўваюць тысячы рабочых і сялян».

Усім працоўным вядома роля, якую адыграў т. Ленін у організацыі перамогі пролетарскай

рэвалюцыі. З выключнай праніклівасьцю, уважліва наглядаючы за станам фронтаў, патрабаваў ён самай вялікай увагі да фронту. Як ніхто другі, меў ён геніяльную здольнасьць перасьцерагаць масы ад небясьпек і знаходзіць шляхі перамог. У самыя крызісныя дні грамадзянскай вайны артыкулы і баявыя прамовы т. Леніна, узьнімаючыя энтузіязм масы, даходзілі да кожнага байца.

Пад непасрэдным кіраўніцтвам Ільліча ў Чырвонай арміі працавалі лепшыя, загартаваныя ў клясавых баёх, бальшавікі.

Тав. Сталін—лепшы вучань Леніна, правадыр бальшавіцкай партыі—змагаўся ў часе грамадзянскай вайны на самых адказных вучастках франтоў. «У грамадзянскай вайне т. Сталін,—піша т. Варашылаў,—у рознастайных і складаных умовах, уладаючы вялікім талентам рэвалюцыйнага стратэга, заўсёды дакладна вызначаў асноўныя напрамкі галоўнага ўдару і ўжываючы адпаведныя тактычныя прыёмы, дабіваўся патрэбных вынікаў... Ён аддаваў сябе ўсяго цалкам і непадзельна»...

Тав. Варашылаў у працягу ўсяе грамадзянскай вайны быў на самых адказных і цяжкіх вучастках, організоўваючы перамогу. Несакрушальная воля да перамогі, веданьне мас і ўменьне кіраваць імі, спалучэньне асабістай адвагі з таленавітасьцю буйнага вайсковага начальніка, жалезная воля бальшавіка-ленінца,—вось якасьці Наркома, любімага правадыра Чырвонай арміі—Кліма Варашылава. Імёны Фрунзэ, Дзяржынскага,

Калініна і інш. кіраўнікоў Чырвонай аармії і організатараў перамог у грамадзянскай вайне вядомы ўсім працоўным, яны выканалі вялізарную работу ў разгроме белагвардзейскіх армій. У грамадзянскай вайне супроць першай у сьвеце рабоча-сялянскай дзяржавы выступіў увесь капіталістычны сьвет. Прычыны нашых перамог абавязан ведаць кожны.

Чырвоная армія—армія пролетарскай дыктатуры. Гэта забясьпечвала ёй адзінае і нядзейнае кіраўніцтва.

Чырвоная армія—армія рабочай клясы і працоўнага сялянства. Гэта забясьпечвала ёй падтрымку і актыўны ўдзел у яе радох шматмільённых мас сялянства.

Чырвоная армія—армія вызваленьня рабочых і сялян усіх нацыянальнасьцяй СССР. Гэта забясьпечвала ёй падтрымку і актыўны ўдзел у яе радох працоўных усіх нацыянальнасьцяй Краіны саветаў.

Чырвоная армія—армія міжнароднага пролетарыяту. Гэта забясьпечвала ёй поўную падтрымку і непасрэдны ўдзел у яе радох прадстаўнікоў працоўных усяго сьвету.

У Чырвонай аарміі няма клясавых супярэчнасьцяй паміж радавым байцом і начальнікам. Гэта забясьпечвае жалезную ваенную дысцыпліну.

Моцная партыйная організацыя РСЧА зьяўляецца цэмантам, зьнітаваўшым байцоў у адзіны жалезны колектыў. Нарэшце, непасрэдны ўдзел у кіраўніцтве Чырвонай арміі прымалі такія вялі-

кія людзі нашай эпохі як Ленін, Сталін, Фрунзэ, Варашылаў. Партыя дала ясныя пераможныя лёзунгі краіне і Чырвонай арміі.

Перамога была магчыма таму, што «ўпяршыню ў сьвеце створана армія, узброеная сіла, якая ведае, за што яна ваюе, і ўпяршыню ў сьвеце рабочыя і сяляне, якія прыносяць нячувана цяжкія афяры, ясна сазнаюць, што яны абараняюць» (Ленін).

Вялікае значэньне ў справе арганізацыі перамогі мелі прычыны міжнароднага парадку. Важнейшай з іх была падтрымка нас сусьветным пролетарыятам і прыгнечанымі народамі колёній. Рэволюцыя ў Германіі дала магчымасьць Савецкай краіне вызваліцца ад Брэсцкага міру. Рэволюцыя ў Вэнгрыі адцягнула сілы імпэрыялістаў ад Савецкай Расіі. «Рысавыя бунты ў Японіі і антыяпонскія паўстаньні ў Карэі перашкодзілі Японіі павялічыць свае войскі ў Сібіры і т. д.».

Супярэчнасьці паміж дзяржавамі, нанова створанымі пасьля сусьветнай вайны і рэволюцый, і белымі генэраламі таксама разбуралі адзіны фронт імпэрыялістаў.

Слаўныя бальшавіцкія традыцыі героічных перамог Чырвонай арміі жывуць у армейскіх камуністаў і сёньня. На франтох грамадзянскай вайны 1917-21 гг., у баёх з белакітайскімі генэраламі 1929 г., у буднях мірнай будоўлі, у напружанай баявой вучобе армейскія бальшавікі былі і будуць адданымі справе Леніна, манолітна згуртаванымі вакол ленінскага ЦК і т. Сталіна. За

апошнія гады рады партыйнай арганізацыі арміі асабліва ўзмацніліся і выраслі. На 1/І-28 г. партыйны склад арміі складаў 13,8 проц., на 1/І-32 г.— 26,6 проц. Да 1/ІІІ-32 г.—30 проц. Цяпер гэты процант яшчэ больш павялічыўся. Рост партыйнай арганізацыі РСЧА вылічваецца дзесяткамі тысяч. Бурна расьце памочнік партыі—армейскі комсамол. Прынятыя ў комсамол за першае паўгодзьдзе 1932 г. складаюць 523 проц. у адносінах да прынятых у першым паўгодзьдзі 1927 г. На 1 сакавіка 1932 г. комсамольская праслойка складае 25 проц. Ёсьць паасобныя падразьдзяленьні, дзе часьці поўнасьцю партыйна-комсамольскія.

Сілай бальшавіцкага прыкладу комуністы і комсамольцы заражалі масы байцоў на вывучэньне тэхнікі, ахову тэхнікі і ўзорнае вядзеньне баявых машын.

## Тав. СТАЛІН І ЧЫРВОНАЯ АРМІЯ

Любімы правадыр нашай партыі і ўсяго еўсьветнага пролетарыяту—т. Сталін адыгрываў выключную ролю, асабіста організоўваючы перамогу Чырвонай арміі ў асабліва напружаныя моманты грамадзянскай вайны.

Тав. Варашылаў піша: «У пэрыод 1918-20 гг. т. Сталін зьяўляўся, бадай, адзіным чалавекам, якога Цэнтральны комітэт кідаў з аднаго баявога фронту на другі, выбіраючы найбольш небясьпечныя, найбольш пагражаючыя для рэволюцыі

месцы. Там, дзе было адносна спакойна і больш-менш добра, дзе мы мелі посьпехі, там ня было відаць т. Сталіна. Але там, дзе ў зьвязку з цэлым радам прычын цярпелі паражэньні Чырвоныя арміі, дзе контррэвалюцыйныя сілы, разьвіваючы свае посьпехі, пагражалі самому існаваньню савецкай улады, дзе замяшаньні і паніка маглі ў любую хвіліну ператварыцца ў бездапаможнасьць, катастрофу, там зьяўляўся т. Сталін. Ён ня спаў начамі, ён арганізоўваў, ён браў у свае цьвёрдыя рукі кіраўніцтва, ён ламаў, быў бязьлітасным і стварыў пералом, аздараўляў абстаноўку...» і далей «Восень 1919 г. зьяўляецца памятнай усім. Надыходзіў рашаючы пераломны момант усёй грамадзянскай вайны: забясьпечаныя «саюзьнікамі», падтрыманыя іх штабамі, белагвардзейскія банды Дзянікіна набліжаліся да Арла. Увесь вялікі паўднёвы фронт павольнымі валамі адкатваўся назад. Унутры становішча было ня менш цяжкім. Харчовыя цяжкасьці надзвычай абвастрыліся. Прамысловасьць спынялася ад недахопу апалу. Унутры краіны і амаль у самой Маскве пачалі варушыцца контррэвалюцыйныя элемэнты. Небясьпека пагражала Туле, небясьпека навісла над Масквой. Трэба ратаваць становішча. І на паўднёвы фронт ЦК пасылае ў якасьці члена РВС т. Сталіна.

Азнаёміўшыся са становішчам, т. Сталін адразу прымае рашэньне. Ён катэгорычна адкідае стары плян, высоўвае новыя проекты і прапануе іх Леніну... Плян Сталіна быў прынят Цэнтральным

комітэтам. Сам Ленін уласнай рукой напісаў загад Палявому штабу аб безадкладнай зьмене зжыўшай сябе дырэктывы».

Асаблівую ўвагу ўдзяляў і ўдзяляе т. Сталін Чырвонай арміі. «Як ва ўсім выкананьні першага пяцігадовага пляну соцыялістычнага будаўніцтва, так і ў гэтай спэцыяльнай галіне будаўніцтва Чырвонай арміі, у яе тэхнічным пераўзбраеньні, неабходна асабліва адзначыць і асабліва падкрэсьліць выключную ролю т. Сталіна. Разумеючы выключную важнасьць для цэласнасьці нашай дзяржавы, для пасьпяховага будаўніцтва соцыялізму моцнай узброенай абароны, уладаючы шырокімі ведамі ваеннай справы і багатым баявым вопытам грамадзянскай вайны, т. Сталін заўсёды прымаў асабісты і непасрэдны ўдзел ва ўсіх пытаньнях, якія зьвязаны з тэхнічнай рэконструкцыяй арміі, яе пераўзбраеньнем на новай тэхнічнай базе» (В а р а ш ы л а ў).

Тав. Сталін выкрыў контррэволюцыйныя трацкісцкія легенды аб асобай ролі Троцкага ў грамадзянскай вайне. Трацкісты, якія сталі перадавым атрадам контррэволюцыйнай буржуазіі, распаўсюджваюць легенды аб вялікіх заслугах Троцкага ў справе організацыі перамог у грамадзянскай вайне. Тав. Сталін двума яскравымі дакумантамі разьбіў усю ілжывасьць і пустату гэтых легенд. Ён кажа:

«Да ліку такіх легенд трэба аднесьці вельмі распаўсюджаную версію аб тым, нібы Троцкі зьяўляецца «адзіным», ці «галоўным» організата-

рам перамог на франтох грамадзянскай вайны. Я павінен заявіць, таварышы, у інтарэсах сапраўднасьці, што гэтая вэрсія зусім не адпавядае рэчаіснасьці... Вы ведаеце, што асноўнымі ворагамі Савецкай рэспублікі лічыліся Калчак і Дзянікін. Вы ведаеце, што наша краіна ўздыхнула свабодна толькі пасьля перамогі над гэтымі ворагамі. І вось гісторыя гаворыць, што абодвых гэтых ворагаў, г. зн. Калчака і Дзянікіна, дабілі нашы войскі, насуперак плянам Троцкага. Мяркуйце самі:

1) Аб Калчаку. Справа адбываецца летам 1919 г. Нашы войскі наступаюць на Калчака і арудуюць пад Уфой. Паседжаньне ЦК. Тав. Троцкі прапануе затрымаць наступленьне на лініі ракі Белай (пад Уфой), пакінуўшы Урал у руках Калчака, Урал з яго заводамі, з яго чыгуначнай сеткай, дзе ён лёгка можа аправіцца, сабраць кулак і зноў апынуцца ля Волгі; трэба спачатку прагнаць Калчака на Уральскі хрыбет у Сібірскія стэпы і толькі пасьля гэтага заняцца перакідкай сіл на паўднёвы фронт. ЦК адхіляе плян т. Троцкага... З гэтага моманту Троцкі адыходзіць ад непасрэднага ўдзелу ў справах усходняга фронту.

2) Аб Дзянікіне. Справа адбываецца ўвосень 1919 г. Наступленьне на Дзянікіна не ўдаецца. «Сталёвае кальцо» вакол Мамантава (рэйд Мамантава) яўна праваліваецца. Дзянікін бярэ Курс, падыходзіць да Арла. Тав. Троцкі выклікаецца з паўднёвага фронту на паседжаньне ЦК. ЦК прызнае становішча трывожным і пастанаўляе накі-

раваць на паўднёвы фронт новых ваенных работнікаў, адклікаўшы т. Троцкага... Троцкі адыходзіць ад непасрэднага ўдзелу ў справах паўднёвага фронту. Опэрацыі на паўднёвым фронце аж да ўзяцьця намі Растова-на-Дану і Адэсы, праходзяць без т. Троцкага. Няхай паспрабуюць абвергнуць гэтыя факты» (Сталин, сборник «Об оппозиции», стар. 109—110).

Такім чынам легенды контррэволюцыйных трацкістаў аб Троцкім як «адзіным», ці «галоўным» арганізатары перамог на франтох грамадзянскай вайны не вытрымліваюць крытыкі.

## ЗА ДАЛЕЙШАЕ ЎМАЦАВАНЬНЕ АБАРОНАЗДОЛЬНАСЬЦІ КРАІНЫ

Асноўная задача, якая стаіць перад Чырвонай арміяй, сформулявана т. Варашылавым.

«Наш абавязак перад партыяй, перад рабочай клясай, перад усімі працоўнымі заключаецца ў тым, каб аўладаць па-сапраўднаму новай тэхнікай, якую дала нам краіна, якая так дорага каштуе і так моцна нам патрэбна».

Задача ўсёй пролетарскай грамадзкасьці—усімі сіламі і сродкамі памагчы Чырвонай арміі вырашыць гэтую галоўную задачу: «асвоіць тэхніку».

Пастаноўка ваенна-шэфскай работы, забясьпечаньне чарговага прызыву ў Чырвоную армію, дапрызыўная падрыхтоўка, ваеннае навучаньне

па лініі комсамолу, Асовіяхіму, Чырвонага крыжу, Аўтодору, міжзборавая работа сярод пераменьнікаў тэрчасьці павінны памагчы вырашыць гэту задачу.

## СУПРОЦЬ ТРАСКАТНІ, ЗА САПРАЎДНАЕ ШЭФСТВА

Шэфства зьяўляецца адным з важнейшых зьвеньняў, якія зьвязваюць рабочых непасрэдна з байцамі. Пролетарыят мае ўплыў на Чырвоную армію, выхоўваючы яе ў духу непрымірымасьці да клясавых ворагаў на ўсіх вучастках соцыялістычнага будаўніцтва. 15-я гадавіна Чырвонай арміі павінна яшчэ больш узмацніць сувязь працоўных з Чырвонай арміяй. Слабейшыя вучасткі ваеннай-шэфскай работы павінны быць рашуча ўмацаваны.

Памагчы стварыць сапраўдную ўтульнасьць у клюбах, казармах і клясах, памагчы організацыі адпачынку камандзіру і чырвонаармейцу садзейнічаць узьняцьцю агульнаасьветнага і політычнага ўзроўню іх, штодзенны пролетарскі ўплыў,—вось конкрэтныя формы дапамогі пролетарскай грамадзкасьці ў барацьбе за асваеньне Чырвонай арміяй тэхнікі.

Вопыт конкрэтнага шэфства можна ўзяць з фабрыкі «Дзьвіна» (Віцебск).

Яна абавязалася адпрацаваць дзьве гадзіны і сродкі перадаць сваёй падшэфнай часьці для

палепшаньня культурна-бытавога абслугоўваньня байца.

Апрача таго рабочыя абавязаліся зрабіць для чырвонай казармы: шафы для хаваньня зубнога парашку, мыла і інш., шафку для тэхнікі сувязі, дзьве вітрыны для выстаўкі кніг, шафку для звальняльных значкоў.

Рабочыя просяць сваю падшэфную ваенную часьць вылучыць двух таварышоў для дапамогі ў наладжваньні работы ячэек Асоавіяхіму ў рамонтным і ткацкіх цэхах.

Для больш пасьпяховага правядзеньня ўсёй работы па агляду сход рамонтнікаў пастанавіў заключыць дагаворы на соцспаборніцтва паміж цэхамі, групамі, падразьдзяленьнямі ваеннай часьці і выклікаць рабочых усіх астатніх цэхаў фабрыкі.

Прыклад рамонтнікаў быў падхоплен рабочымі ткацкага цэху і інжынэрна-тэхнічнымі работнікамі фабрыкі, якія адпрацавалі на палепшаньне быту чырвонай казармы дзьве гадзіны. Такая-ж работа праводзіцца і ў астатніх цэхах.

У выхадны дзень наладжана была экскурсія групы рабочых з 60 чалавек у падшэфную ваенную часьць для азнаямленьня з жыцьцём і бытам чырвонаармейцаў і становішчам чырвонай казармы.

У чырвоную казарму з фабрыкі накіравана брыгада для наладжваньня работы чырвоных куткоў.

Перад гадавінай Чырвонай арміі будуць праходзіць агульнагарадзкія ваенна-шэфскія канфэ-

рэнцыі. Да гэтых конфэрэнцый кожнае прадпрыемства павінна прыйсьці з конкрэтнымі дасягненьнямі і опэрацыйным плянам сваіх работ.

«Нідзе ў сьвеце няма такіх клапатлівых адносін з боку народу да арміі, як у нас. У нас армію любяць, яе паважаюць, аб ёй клапоцяцца» (Сталін).

## ЗАБЯСЬПЕЧЫМ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ ДОБРАЕ ПАПАЎНЕНЬНЕ

Задачу асваеньня баявой тэхнікі Чырвоная армія ня можа інакш вырашыць, як на аснове далейшага клясавага згуртаваньня сваіх радоў. Чарговае папаўненьне Чырвонай арміі павінна быць клясава-правераным. У БССР ужо пачалася прыпіска да прызыўных вучасткаў. Не чакаць, пакуль пачнецца сам прызыў, а ўжо зараз на прыпіскных пунктах ваенкомату, на вучэбных пунктах Асоавіяхіму пачаць вывучэньне соцыяльнага твару прызыўнікаў і адсеяць усё чужое.

Ужо першыя дні прыпіскі паказваюць, як клясавы вораг імкнецца папасьці ў Чырвоную армію.

Дапрызыўнік Дзеравяга (Барысаўскі с/с, Менскага р.) называе сябе рабочым. Пры дэталёвым-жа вывучэньні яго высьветлілася, што гаспадарка бацькі ліквідавана як кулацкая. Ён з бацькам сумысьля пакінулі свой сельсавет і пераехалі ў другі, каб скрыць свой соцыяльны твар—твар клясавага ворага.

Дапрызыўнік Крычаўскага раёну, кулацкі агент Панькоў Яўхім, прабраўся на вучэбны пункт, а потым у асоавіяхімаўскую брыгаду па збожжазагатоўках, зрываў работу брыгады і дапамагаў кулакам хаваць збожжа.

Ужо ёсьць спробы зрыву работы пунктаў:

У выніку бязьдзейнасьці Трасьцянецкага с/с у дзень прыпіскі зьявілася толькі 3 прызыўнікі, у Бароўскім—13.

Не дапусьціць у Чырвоную армію ніводнага чужака, мобілізаваць вакол гэтай задачы пролетарскую і колгасную грамадзкасьць, абмеркаваць сьпісы прызыўнікаў на сходах, вывесіць гэтыя сьпісы, своечасова запатрабаваць даведкі па месцы жыхарства, організаваць нясупыннае вывучэньне соцыяльнага твару прызыўнікаў, нарэшце, адпаведна організаваць работу саміх прыпісных пунктаў.

Каб аўладаць тэхнікай, трэба быць пісьменным. Усе дапрызыўнікі павінны ня толькі ліквідаваць сваю няпісьменнасьць, але і малапісьменнасьць.

Між тым процант няпісьменных і малапісьменных вельмі высокі. Так, з 13 чалавек, якія зьявіліся на пункт па Бароўскаму с/с—1 зусім няпісьменны і 5 малапісьменных; у Папернянскім с/с — 2 няпісьменных і 7 малапісьменных.

Трэба ўсе сілы і сродкі мобілізаваць, каб да 1 мая ўсе дапрызыўнікі былі пісьменнымі.

Прыпіска праходзіць з нябывала бадзёрым настроем і актыўнасьцю. Выклік Магілеўскага райваенкомату на лепшае правядзеньне прыпіскі пад

лёзунгам: даць РСЧА клясава-вытрыманае, палітычна-выхаванае, агульнапісьменнае і фізычна здаровае папаўненьне, падхопліваецца шырокімі масамі дапрызыўнікаў.

Далей, папярнянскія дапрызыўнікі ўзялі на сябе наступныя соцыялістычныя абавязкі: ніводнага чужака не дапусьціць у РСЧА; па-ўдарнаму памагаць у выкананьні ўсіх відаў загатовак і правядзеньні бальшавіцкай вясны; да 1 мая поўнасьцю ліквідаваць няпісьменнасьць і малапісьменнасьць; добра ўсвоіць програму па ваеннай падрыхтоўцы на пункце.

Рапартаваць да 15-й гадавіны Чырвонай арміі конкрэтнымі справамі і дасягненьнямі па арганізацыі прыпіскі, ліквідацыі няпісьменнасьці і малапісьменнасьці, ахопу ўсіх дапрызыўнікаў здачай норм на значок ГПА, саназдараўляльнымі мерапрыемствамі—справа гонару кожнага прадпрыемства, колгасу, саўгасу.

## ВУЧПУНКТАМ, БАЯВОЙ ПАДРЫХТОЎЦЫ НАСЕЛЬНІЦТВА—БАЛЬШАВІЦКУЮ ЯКАСЬЦЬ

«Чырвоная армія канца пяцігодкі зусім не падобна да Чырвонай арміі 1927—1928 гг.», так сказаў нарком т. Варашылаў. Яна пераўзброілася новай тэхнікай. Гэта ўскладае на кожнага байца вялізарныя задачы па аўладаньні гэтай тэхнікай. Тэрміны-ж службы ў арміі засталіся старыя. Значыць трэба ўсю работу па страявой падрыхтоўцы,

фізычнай падрыхтоўцы, па прышчапленьні элемэнтарных ваенных навыкаў і ведаў даць байцу яшчэ да прыходу яго ў Чырвоную армію.

Гэта задача ўскладзена на Асоавіяхім, які праз свае вучэбныя пункты праводзіць гэтую работу.

Вучэбны пункт павінен стаць абарончым цэхам прадпрыемства. Уся абстаноўка ў ім павінна нагадваць абстаноўку Чырвонай арміі: чыстата, парадак, табэльная маёмасьць, пастаноўка політработы і т. д. «Душа і сэрца» Асоавіяхіму—комсамол—галоўную сваю ўвагу павінен зьвярнуць на вучэбныя пункты.

120 гадзін кожны дапрызыўнік праходзіць на вучпункце. Трэба, каб гэтым 120 гадзінам была дана бальшавіцкая якасьць, трэба змагацца супроць растраты часу. Усім пунктам раўняцца па перадавых.

Умовы будучай вайны патрабуюць мінімум ваенных ведаў, асабліва па ППА (проціпаветранай абароны) і для ўсяго працоўнага насельніцтва. Зараз праводзіцца месячнік ППА, у часе якога, да сьвяткаваньня гадавіны Чырвонай арміі, усё гарадзкое насельніцтва і часткова вясковае павінна быць пісьменна ў адносінах ППА, г. зн. кожны працоўны павінен навучыцца карыстацца сродкамі проціпаветранай абароны, у першую чаргу індывідуальнымі.

Прыкладам разгортваньня работы можа служыць Барысаўская організацыя, якая здолела сапраўды разгарнуць масавую работу вакол гэтай кампаніі (гутаркі на прадпрыемствах, спэц. на-

рады актыву, радыёпераклічкі, нарады газэтных работнікаў). У той-жа час Аршанская организацыя яшчэ дагэтуль займаецца толькі падшукваньнем сабе работнікаў.

Трэба даць магчымасьць Чырвонай арміі рыхтаваць **важнейшыя** ваенныя спэцыяльнасьці. Рад спэцыяльнасьцяй масавай кваліфікацыі павінны нам даць абаронныя грамадзкія організацыі і галоўным чынам Чырвоны крыж. Санітарнымі карпусамі, атрадамі, гурткамі розных спэцыяльнасьцяй трэба ахапіць невайскова - абавязанае насельніцтва—галоўным чынам жанчын. Сучасны ахоп гэтымі гурткамі зьяўляецца зусім недастатковым.

Дні падрыхтоўкі да гадавіны Чырвонай арміі павінны быць днямі масавага прыліву ў гэтыя гурткі, днямі ўзьняцьця на належную вышыню якасьці іх работы.

Работніцы ф-кі «Профінтэрн» (Віцебск) могуць служыць узорам у гэтай рабоце. У актыў Асоавіяхіму ўцягнута 30 асоб, у хімічную і санітарную каманду—42, чырвоных сясьцёр падрыхтавана 38. Гурткамі санітарнай абароны ахоплена 620 жанчын.

Пераменьнік тэрыторыяльнай часьці большую частку году праводзіць дома па-за ваеннымі часьцямі. Сучасныя-ж задачы байца патрабуюць ад яго бесьперапыннага ўдасканальваньня сваіх ваенных ведаў. Стварыць гэтыя ўмовы, забясьпечыць рэгулярныя заняткі з пераменьнікамі, прымацаваць да групы пераменьнікаў начсклад запасу і політычна-пісьменных таварышоў для прапрацоў-

кі індывідуальных заданьняў—вось конкрэтныя патрабаваньні да раёнаў тэрыторыяльнага комплектаваньня да гадавіны Чырвонай арміі

Уключэньне ў варашылаўскую эстафэту, якая праводзіцца ЛКСМБ і Асоавіяхімам —асноўная форма падрыхтоўкі да гадавіны.

Вось конкрэтны плян уключэньня ў варашылаўскую эстафэту ф-кі «Акцябр» (Менск):

1. Організаваць 2 стралковыя гурткі, у якія ўцягнуць ня менш 150 рабочых.

2. Стварыць гурток па вывучэньні бронетанку і санітарны гурток.

3. Ліквідацыяй ППА няпісьменнасьці ахапіць 200 чал.

4. Да 15-годзьдзя РСЧА ўцягнуць усіх рабочых фабрыкі ў асоавіяхімаўскія рады.

5. Да 30 студзеня поўнасьцю ліквідаваць запазычанасьць па членскіх узносах.

6. Дабіцца 100-процантнага наведваньня і добрага ўсваеньня вучобы на вучпункце дапрызыўнікаў і пазавайскоўцаў.

7. Да 30 студзеня закончыць папярэднюю падпіску на 7-ю лётарэю АСО.

8. З дапамогай падшэфнай ваеннай часьці наладзіць з 10 да 23 лютага стралковае спаборніцтва.

9. Організаваць дзьве ўдарныя брыгады імя 15-годзьдзя Рабоча-сялянскай Чырвонай арміі.

10. Да 15-годзьдзя РСЧА падрыхтаваць 50 цэлых стралкоў на атрыманьне значка «Варашы-

лаўскі стралок», а да 13-годзьдзя вызваленьня Беларусі—даць яшчэ 75 ціравых стралкоў.

11. На працягу 1933 г. падрыхтаваць ня менш 50 палявых стралкоў.

Такімі-ж конкрэтнымі справамі павінен адказаць кожны завод у сваёй падрыхтоўцы да гадавіны Чырвонай арміі.

## ПАДРЫХТОЎКУ ДА СЬВЯТА СПАЛУЧЫЦЬ З ПАДРЫХТОЎКАЙ ДА ВЕСНАВОЙ СЯЎБЫ

«Таварыш ўраджай» вельмі вялікі фактар у справе абароназдольнасьці краіны і боягатоўнасьці Чырвонай арміі.

Усе абарончыя організацыі павінны быць самымі актыўнымі ўдзельнікамі бальшавіцкай сяўбы.

Перад кожнай абаронччай організацыяй могуць быць пастаўлены зусім конкрэтныя і нават спэцыфічныя задачы.

Падрыхтоўка моцнага каня для працы і абароны—непасрэдная задача Асоавіяхіму. 6 лютага—Усесаюзны дзень каня.

Прыкладам увагі да каня можа служыць яч. Асоавіяхіму «Пролетарскі араты», Крычаўскага раёну, якая ўзяла шэфства над колгасным канём, вылучыла брыгаду з асоавіяхімаўцаў, прывяла ў поўны парадак стайню, адрамантавала яе, ацяпліла, зрабіла для кожнага каня асобны станок і організавала брыгады імя Асоавіяхіму па догляду за цягавай сілай, замацаваўшы сябе на гэтай рабоце да канца году.

Здаровы конь у пасеўнай кампаніі—гэта галоўнейшая задача. Вырашэньню гэтай задачы Асоавіяхім павінен садзейнічаць.

**Засыпаць насенныя фонды, пратруціць і ачысьціць насеньне, організаваць ахову насенных фондаў**—удзячная галіна работы для асоавіяхімаўскіх організацый. Тут і выкананьне галоўнейшай задачы бальшавіцкай вясны ў спалучэньні са спэцыфічным хімпратручваньнем і практыка для каравульнай службы асоавіяхімаўцаў.

Пачатак гэтай работы зрабілі Барысаўскія дапрызыўнікі-асоавіяхімаўцы. Брыгада з 6 дапрызыўнікаў перасовачнага вучпункту № 1 была накіравана ў колгас «Хваля рэволюцыі», Лошніцкага с/савету. Яна абмалаціла 100 пуд. збожжа, правяла ачыстку і засыпку насеннага фонду колгасу. Зембінскія і Касьцюковіцкія асоавіяхімаўцы-селькоры ўнесьлі прапанову абвясьціць 1 лютага днём попелу, які ставіць сваёй задачай мобілізаваць усю грамадзкасьць на збор попелу і растлумачыць значэньне попелу ў справе ўздыму ўраджайнасьці соцыялістычных палёў. Гэтая прапанова падхоплена грамадзкасьцю ўсёй БССР і гэты дзень ператварыўся ва Ўсебеларускі дзень. Ня трэба толькі абмежавацца гэтым днём. Організацыі Чырвонага крыжу могуць і павінны ўжо зараз разгортваць сетку палявых санпастоў, дзіцячых палявых ясьляй.

Аўтадораўскія організацыі павінны ўключыцца ў справу шэфства перадавых прадпрыемстваў над МТС, уключыцца ў справу рамонту трактар-

нага парку, прыцэпных прылад, арганізаваць некалькі дзесяткаў агітаўтамобіляў па давядзеньні плянаў сяўбы і аўтоперасовачных рамонтных майстэрань.

Фізкультурныя арганізацыі ўжо ўключыліся ў гэтую кампанію. Па БССР праводзіцца «зьвёздны прабег», які ставіць сабе задачай популярызацыю варашылаўскай эстафэты і веснавой сяўбы. Спэцыяльныя лыжныя вылазкі, эстафэты, прыняцьце на сябе кожным фізкультурнікам абавязкаў па абслугоўваньні сталага ліку населеных пунктаў— вось формы работы фізкультурных арганізацый.

Асабліва адказная роля соцыялістычнага ўплыву на вёску належыць пераменьнікам. Яны павінны быць самымі перадавымі ў справе вырашэньня асноўных задач веснавой сяўбы, пастаўленых партыяй і ўрадам.

Сотнямі, тысячамі спэцыяльных брыгад, асавіяхімаўцаў, чырвонакрыжцаў, аўтодораўцаў, фізкультурнікаў і пераменьнікаў па сяўбе павінна пакрыцца БССР. Яны павінны разгарнуць баявую работу па падрыхтоўцы да пасеўнай кампаніі.

## ВЫШЭЙ КЛЯСАВУЮ ПІЛЬНАСЬЦЬ

Падрыхтоўку да сьвяткаваньня гадавіны Чырвонай арміі трэба скарыстаць для падвышэньня клясавай пільнасьці членаў абаронных арганізацый, для сыстэматычнай ачысткі сваіх шэрагаў ад чужых, клясава-варожых элемэнтаў.

Правадзімыя кампаніі перавучоту членаў АСО, перавыбараў нізавых арганізацый трэба скарыстаць для выхаваньня шырокіх мас на штодзеннай барацьбе з клясавым ворагам, ускрываючы новыя мэтоды работ клясавага ворага, даючы руйнуючы адпор усялякім спробам варожых элемэнтаў пашкодзіць соцбудаўніцтву. Трэба ўскрываць усе вылазкі клясавага ворага і бязьдзейнасьць «шляп», якія прыкрываюць гэтыя вылазкі.

Абаронныя грамадзкія арганізацыі ва ўсіх сваіх зьвеньнях павінны стаць сапраўднымі пролетарскімі «прываднымі» рэмнямі партыі.

Усё клясава-варожае павінна быць з гэтых арганізацый бязьлітасна выкінута. Ня можа быць ніякага лібэральнічаньня з клясавым ворагам і яго агентурай. У духу бальшавіцкай непрымірымасьці да ўсіх і ўсялякіх імкненьняў клясава-варожых элемэнтаў пашкодзіць нам павінны выхоўвацца масы працоўных, аб'яднаныя ў рады дабраахвотных таварыстваў і асабліва тых, якія ўзмацняюць абароназдольнасьць соцыялістычнай краіны (АСО, Чырвоны крыж, Аўтодор і інш.).

## НА ВАРЦЕ СОЦЫЯЛІЗМУ

Чырвоная армія—моцная зброя пролетарскай дыктатуры, магутная апора соцыялізму. «Узброеная сіла нашага Саюзу,—гаварыў на XVI зьезьдзе нашай партыі т. Варашылаў,—у арганізацыйных, баявых і палітычных адносінах зьяўляецца зусім

надзейнай узброенай апорай пролетарыяту». Чырвоная армія, нясупынна ўдасканальваючыся, зьяўляецца грозным праціўнікам для нашых клясавых ворагаў.

Нядарам міжнародныя імпэрыялістычныя драпежнікі так настойліва патрабавалі ад шкоднікаў, ад «прампартыі» ўзмоцненай работы па разлажэньні Чырвонай арміі. Аднак, ім прышлося канстатаваць, што ня толькі разгарнуць, але і пачаць контррэволюцыйную работу ў арміі ім не ўдалося. Клясавая пільнасьць байцоў і начскладу, высокая палітычная актыўнасьць усяго асабовага складу арміі зьяўляліся магутнай перашкодай усялякім спробам шкоднікаў зрабіць уплыў на армію краіны перамагаючага соцыялізму.

Чырвоная армія бліскуча вытрымала і другую праверку на клясавую пільнасьць і палітычную ўстойлівасьць. У сувязі з колектывізацыяй і збожжазагатоўкамі кулак, ліквідуемы як кляса, спрабаваў знайсьці спачуваньне і падтрымку ў Чырвонай казарме. Чырвоная армія дала такі самы рашучы і сакрушальны адпор кулацтву, як і ўся краіна ў цэлым.

Чырвоная армія ня менш бліскуча вытрымала і баявы экзамэн, сур'ёзную баявую праверку на Далёкім Усходзе пры спробе сусьветнага імпэрыялізму рукамі кітайскіх генэралаў пачаць другі тур інтэрвэнцыі супроць СССР.

Тав. Блюхэр, выступаючы на XVI зьезьдзе, гаварыў, што Асобая Далёка-Ўсходняя армія «якая налічвае на сёнешні дзень амаль 85 проц. сялян-

скага маладняка, білася ў гэтых баёх з такой аддданасьцю дыктатуры рабочай клясы, з якой біліся толькі лепшыя атрады рабочай гвардыі ў 1918 і 1919 гг.». «Нашы камандныя кадры,—гаворыць далей т. Блюхэр,—на якіх у свой час контррэволюцыйны трацкізм узводзіў паклёп, абвінавачваючы ў перараджэньні, паказалі ў гэтых баёх, што ў асобе і старых удзельнікаў грамадзянскай вайны і таго маладняка, які мы атрымалі праз нашы ваенна-навучальныя ўстановы, мы як і раней, маем надзейнага, клясава-адданага абаронца дыктатуры пролетарыяту. Усе аднолькава гатовы былі змагацца за пролетарскую дыктатуру, кожны лічыў за гонар пайсьці першым у бой». І далей:— «у гэтых бойках наша партыйная організацыя заваявала сабе такі аўторытэт, якім можа гардзіцца XVI партзьезд. Партыйцы і комсамольцы, якія зараз зьяўляюцца застрэльшчыкамі ў соцыялістычным спаборніцтве і ўдарніцтве, таксама зьяўляліся застрэльшчыкамі і ў гатоўнасьці аддаць сваё жыцьцё за справу рабочай клясы».

Тав. Варашылаў даў дакладны адказ аб сіле і магутнасьці Чырвонай арміі. Ён гаварыў: «На Далёкім Усходзе адзін з атрадаў Чырвонай арміі вытрымаў блескучы экзамэн на баявую згуртаванасьць і політычную ўстойлівасьць. Далёка-Ўсходняя баявая праверка Чырвонай арміі цалкам і поўнасьцю пацьвердзіла правільнасьць яе політычнага выхаваньня».

Выконваючы волю рабочай клясы, моцна згуртаваная вакол партыі Леніна несакрушальнай

апорай, моцнай гранітнай сьцяной стаіць наша Чырвоная армія на варце мірнай працы Краіны саветаў. Добра разумеючы свае клясавыя задачы—арміі пролетарскай дыктатуры, арміі, забясьпечваючай незалежнасьць СССР, першай і адзінай бацькаўшчыны працоўных усяго сьвету, у поўнай баявой гатоўнасьці да адпору,—Чырвоная армія ўступае ў 16-ю гадавіну свайго існаваньня.

«Чырвоная армія,—гаворыцца ў загадзе РВС СССР да 15-й гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі,—была, ёсьць і будзе верным вартаўніком міру. Але нікому і ніколі Чырвоная армія не дазволіць пераступіць савецкіх граніц, нікому і ніколі. На працягу ўсіх 15 год Чырвоная армія верна і аддана служыла працоўнаму народу. Несакрушальна стаіць яна і цяпер на абароне мірнай працы пролетарыяту і колгасьнікаў Савецкага саюзу».

«Нашы граніцы сьвяшчэнны і непарушны»,—гаворыць т. Варашылаў. І Чырвоная армія ў 15-ю гадавіну свайго слаўнага існаваньня на парозе другой пяцігодкі, пяцігодкі пабудовы бяскласавага соцыялістычнага грамадзтва, магутным узмацненьнем баявой гатоўнасьці рапартуе партыі і краіне аб гатоўнасьці абароны СССР.

«Ніводнай пядзі чужой зямлі ня хочам, але і сваёй зямлі, ніводнага вяршка сваёй зямлі не аддамо нікому» (С т а л і н).